© PDF: Kamunikat.org 2016
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

**Внимание! Программа телевидения на каналах:**
**БТ, ОРТ, Россия, Культура, НТВ, ТВ-6, ТВ-Цэнтр, A'ST**




# Газета Слонімская

*Газета заснавана ў 1938 годзе. Адноўлена ў 1997 годзе.*

№ 3 (84). 14 — 20 студзеня 1999 г. **Незалежны грамадска-палітычны штотыднёвік.** **Распаўсюджваецца ў Слоніме, Зэльве, Дзятлаве, Мастах.** Кошт свабодны


**ЦЫТАТА НУМАРА**

## Праблемы — па тэлефоне

*"Пераднавагодняя прамая тэлефонная лінія, якую правёў райвыканкам сумесна з раённым спажывецкім таварыствам, выкрыла праблемныя пытанні гандлёвага абслугоўвання сельскага насельніцтва".*

**"Слонімскі веснік" №3, ад 7 студзеня 1999 г.**

## Будзь здароў, салдат

**Сёлета ў Слонімкай брыгадзе пачалі служыць 316 прызыўнікоў.**

Па словах начальніка медслужбы Вячаслава Карабача, з іх 48% маюць пэўныя адхіленні ў стане здароўя. Некаторыя юнакі маюць пласкаступства, парушэнні органаў зроку, скрыўленне пазваночніка, варыкознае расшырэнне венаў і іншыя хваробы.

Ён таксама паведаміў, што цяперашнія маладыя хлопцы вельмі слабыя фізічна, і асобныя з іх не могуць нават падцягнуцца на турніку больш трох разоў. На думку Карабача, прычыны гэтаму — дрэннае харчаванне ў сем'ях і недастатковая фізічная падрыхтоўка. Многія навабранцы маюць хваравіты выгляд. Высветлілася, што з-за нізкага матэрыяльнага дабрабыту некаторыя юнакі харчаваліся толькі адзін раз у дзень. Іх служба пачалася не са страявой падрыхтоўкі і палігона, а са шпіталя, дзе яны пройдуць паглыбленае абследаванне і атрымаюць адпаведнае харчаванне. І толькі пасля таго, як дасягнуць нармальнай фізічнай вагі, яны змогуць прадоўжыць далейшую службу. Але такіх выпадкаў не многа.

Пасля медыцынскага агляду кожны малады воін пойдзе служыць у тое падраздзяленне, куды дазваляе яго стан здароўя і фізічнае развіццё. Напрыклад, у разведвальны батальён будуць накіраваны найбольш фізічна моцныя хлопцы. Юнакі з парушэннем органаў зроку не могуць быць наводчыкамі ў танкавым экіпажы, але пасляхова могуць служыць у артылерыйскім ці кулямётным разліку...

Армія — гэта люстэрка нашага грамадства.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

## Неудержимый доллар

**На «черном» рынке наличной валюты в Минске продолжается стремительный рост стоимости американского доллара.**

К полудню 11 января курс покупки достиг 285-290 тысяч рублей, продажи — 300-310 тысяч, при этом некоторые операторы «черного» рынка покупали доллары по 295-300 тысяч рублей.

Таким образом, за первые полторы недели нового года средний курс доллара вырос уже на 15 процентов (напомним, что 31 декабря американскую валюту покупали по 250-255 и продавали по 260-265 тысяч рублей).

По словам операторов «черного» рынка, скачок курса вызван как накопившимся в связи с многочисленными праздниками спросом на валюту, так и увеличением с 1 января размеров минимальной заработной платы и тарифных ставок. Кроме того, на курс оказывает влияние административное вмешательство Национального банка в деятельность межбанковского рынка. В ближайшее время операторы ожидают увеличения среднего курса покупки доллара до 300, продажи — до 320 тысяч рублей. Между тем, в обменных пунктах коммерческих банков Беларуси курс покупки доллара по-прежнему не превышает 240 тысяч рублей, поскольку 30% купленной у населения валюты банки обязаны продавать Нацбанку по курсу 220 тысяч рублей.

Ожидается, что увеличение рыночного курса доллара повлечет за собой и рост цен в неорганизованной торговле, в частности, на рынках.

**БелаПАН**

# ДОЛЯ ГОРКАЯ, ІНВАЛІДСКАЯ...

Ніяк не магу зразумець, для чаго ў нашым грамадстве ўстаноўлены дзень інвалідаў... Каб падтрымаць гэтых няшчасных людзей маральна ці матэрыяльна? Ды якая там падтрымка! Слёзы адны. Калі і выдзеляць якую дапамогу, то зусім нямногім. Калі і запросяць пасядзець за сталом — такса ма лічаных. Ці проста ім хочуць лішні раз нагадаць пра горкі лёс, пра невылечную хваробу ды калецтва? Дык яны і так пастаянна памятаюць пра гэта. І хацеў бы — не забудзешся. А з гэтым днём няшчасных людзей яшчэ і віншуюць. Хіба можна віншаваць чалавека з бядой? Дзікунства...




У такі дзень успамінаюць далёка не ўсіх інвалідаў. Можа тых, хто запаў у вока начальству, ці хто круціцца бліжэй да яго. А калі просты чалавек, то нікому не патрэбен. Па прынцыпу: твая бяда, ты і бядуй. Вось стаць інвалідам у нас дапамогуць. Як дапамаглі некалі майму мужу. Ён працаваў на будоўлі брыгадзірам. Быў муляром пятага разраду. Працаваў ён тады ў былой Дзятлаўскай ПМК-52. Аднойчы зімой здарылася бяда: на будоўлі бервяно яму падрабіла косці і мышцы галёнкі нагі. Завезлі ў бальніцу. Перавязалі. Вось і ўся медыцынская дапамога. Тры дні ён яшчэ варушыў пальцамі. На чацвёрты яны анямелі. Але ў дактароў гэта не выклікала трывогі. Тых медыкаў ужо няма ў Дзятлаўскай бальніцы. Колькі хадзіла я за імі, колькі прасіла: накіруйце ў абласную бальніцу. Ніхто нават не звяртаў увагі: "І тут вылечым," — казалі.

Нарэшце-такі вымаліла, выпрасіла: выклікалі з Гродна хірурга. Ён зрабіў аперацыю і паехаў. А нашы людзі ў белых халатах забыліся рабіць хвораму перавязкі. Пяць дзён запар ніхто не глядзеў, якая там рана. Толькі абязбольвалі. А калі, нарэшце, разматалі бінты, то ўбачылі плады сваёй нястомнай працы: рана пачала гніаццa.

Неўзабаве пачалася гангрэна. Аднойчы прыйшла медсястра, каб перавязаць рану. Пад хворую нагу падаслалі цырату, бо нават пры нязначным руху з раны цякла кроў з гноем.

Вось так мы і жылі, нібы падвешаныя над полымем. Дні, тыдні... Мінуў месяц, пачаўся другі.

— Накіруйце яго ў Гродна! — маліла дактароў. — Памрэ ж тут. А ў нас сынок маленькі. Яму толькі годзік споўніўся.

— Не памрэ, — запэўнівалі людзі ў белых халатах.

А потым адзін з медыкаў, калі я надакучыла яму сваімі просьбамі, сказаў адкрытым тэкстам:

— Ты што?! Ды я адзін раз хворага з такім зagnаеннем у Гродна адправіў, то мне вымову далі...

Паехала ў тое Гродна сама. Знайшла ў абласной бальніцы хірурга, які прыязджаў у Дзятлава рабіць мужу аперацыю. І зноў з той жа просьбай: забярыце яго адтуль. Памрэ ж!

— Ну што вы мне галаву тлуміце. Я званіў у Дзятлава. Сказалі, папраўляецца.

Так і вярнулся ні з чым. А між тым у мужа паднялася тэмпература. Стаў ён жоўты, і па ўсім целе — фіялетавыя плямы велічынёй з пяцікапеечныя манеты. А тэмпература такая, што не хапала градусніка. Возьмеш яго ў кулак і бачна, як бяжыць ртуць, аж пакуль не ўпрэцца ў канец тэрмометра.

— Што з ім робіцца?! Ён памірае?!

— Нічога страшнага. Гэта ў яго грып, — казалі дактары.

— Я паеду ў Мінск, шукаць якога паратунку, — кажу аднойчы мужу.

— Да каго? Хто там цябе будзе слухаць? А тут, як даведаюцца, што скардзілася, то яшчэ горш будуць адносіцца.

— Чаго ты баішся? Хіба бывае яшчэ горш?

Я прыехала ў Мінск са слязамі адчаю: куды ісці, у каго прасіць дапамогі? Накіравалася ў Міністэрства аховы здароўя. Два мажныя дзядзькі слухалі мяне ўважліва, але ніяк не маглі зразумець, у чым справа, чаго я хачу. Слёзы не давалі магчымасці лагічна выказаць думкі.

— Вазьміце паперу і напішыце, — прапанавалі яны.

Як магла, напісала.

— Занясіце ў канцылярыю, хай гэту паперу зарэгіструюць. А самі едзьце дадому і чакайце адказу.

— Якога адказу?! Пакуль ваш адказ прыйдзе, ён памрэ!

— Рабіце, што вам сказалі!

У канцылярыі кабета прачытала пісаніну, паглядзела на мой апухлы ад слёз твар і чамусьці, зусім не па тэме, спытала:

— Колькі табе гадоў, дачушка?

— Дваццаць тры.

— А яму?

— Дваццаць шэсць.

Яна доўга маўчала, а потым кажа:

— Вазьмі гэту паперу і ідзі ў кабінет (назвала нумар). Там сядзіць добры і спагадлівы чалавек. Ён табе дапаможа.

Я знайшла таго чалавека і, дзякуючы яму, майго мужа назаўтра накіравалі ў Гродзенскую абласную бальніцу. Акрамя гангрэны, у яго быў ужо сэпсіс — заражэнне крыві. Гэта і давала высокую тэмпературу.

У прыёмным пакоі абласной бальніцы пажылы доктар спецыяльным шпрыцом сцягнуў з хворай нагі вялікую колькасць гною з крывёй.

— Каб яшчэ суткі, галубок, цябе ўжо нікуды не трэба было б везці...

Праз тыдзень мужу аднялі нагу. Каб выратаваць жыццё. Перабіта яна была ў галёнцы, а адрэзаць давялося вышэй калена.

Спачатку яму далі другую групу інваліднасці. На год, пакуль навучыўся хадзіць на пратэзе. А потым далі трэцюю.

Працаваць яго пасадзілі ў кантору, перакладваць паперкі. Займаўся справай, якой ён цярпець не мог. Былі і слёзы адчаю, і спробы самагубства, і пошукі выратавання ад гора ў пляшцы віна...

Яшчэ да калецтва яго прынялі ў партыю, якраз на стагоддзе з дня нараджэння Леніна. Ва ўрачыстых абставінах уручылі партыйны білет. А як здарылася бяда, за тры месяцы хваробы ніхто з таварышаў па партыі нават у бальнічную палату не зазірнуў.

*(Працяг на стр.2)*

**ЗДАРЭННІ**

## У таксі ездзіць рызыкоўна?

**У калядную ноч слонімскія супрацоўнікі ДАІ затрымалі 30 вадзіцеляў, аматараў катацца за рулём у нецвярозым стане.**

Здзіўляе тое, што сярод парушальнікаў правіл дарожнага руху былі двое прыватных таксістаў. Вось і думай пасля гэтага, ці варта рызыкаваць і садзіцца ў аўтамабіль з "шашачкамі"?

## Калядаванне... у куратніках

**Незвычайна вырашылі правесці ноч на Каляды дзве сланімчанкі.**

З мяхамі яны пачалі наведваць куратнікі жыхароў вуліцы 17 Верасня. Святочную вячэру з курацінай справіць не ўдалося, бо іх затрымала міліцыя.

## Трагедыя ў Славацічах

**У вёсцы Славацічы Зэльвенскага раёна здарылася трагедыя з 27-гадовым трактарыстам калгаса "Шлях Леніна" Міхаілам Сяляўкам.**

Падчас рэгуліроўкі працуючага гноераскідальніка, у механізмы трапіла адзенне механізатара. Яго зацягнула пад кузаў прычэпа і адарвала абедзве нагі. Мужчына памёр на месцы здарэння.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

**ЗАГЛЯНЕМ НА РЫНОК** *цены (в тыс.руб.)*

| | 29.11.98 | 11.01.99 | | 29.11.98 | 11.01.99 |
|---|---|---|---|---|---|
| мандарины | 220 | 300 | свинина | 130-230 | 160-490 |
| апельсины | 180 | 270 | сало | 200 | 300 |
| яблоки свежие | 35-50 | 80-130 | молоко | 12-14 | 15 |
| сухофрукты | - | 50-70 | сметана | - | 50 |
| морковь (1кг.) | - | 15-20 | масло сл. | - | 260 |
| чеснок | 200 | 250 | творог | - | 50 |
| лук | - | 45-50 | яйца (1дес.) | - | 100 |
| мед нат. (1кг.) | 600 | 750 | капуста св. | - | 18 |



© PDF: Kamunikat.org 2016
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016



# КРЫХУ ПРА СВЯТКІ

А Калядкі ўсё ж – вясёлыя святкі. І вясёлле зусім не шкодзіць адзіны выхадны ў калгасе. У вёсцы як пачалі адзначаць Новы год, то да Каляд і ўвесь калядны тыдзень святкуюць. А што яшчэ застаецца? Нічога ж у гэты час рабіць нельга. Загадзя сечка для каровы нарэзана, самагонка нагнана ў неабходнай колькасці і да яе ў склепе і ў кубельцы нешта знойдзецца – гуляй, душа сялянская! А між тым і калгасную скаціну падаіць і пакарміць можна, не забываючы, вядома, і пра ўласны хлеў. Але гэта ўжо – справа жанчын, бо мужчыны ўсё больш "кучкуюцца". Раніцай на нарадзе "саабражаюць", як паправіць кволы кровазварот пасля ўчарашняга. Вечарам – маюць законнае святочнае права пагасцяваццa кум з кумам, брат з братам, а то і ўсе разам. Калядавацъ, звычайна, яны пасля гэтага не ідуць. Хіба раптам пітва забракуе, то каго аднаго пашлюць да дзеда Мароза.

Але мужчыны і на Каляды не могуць цалкам расслабіцца – на ўсё жончын ліміт. А вось моладзь: падшыванцы-школьнікі, пэтэвушнікі на канікулах і старыя вясковыя кавалеры да святкавання падыходзяць больш творча. Гарэлкі, праўда, яны жлукцяць не менш за старэйшых, але адразу спаць пасля гэтага не кладуцца.



Дыскатэкі-цiскатэкі па вечарах у клубе ці оргіі па блатхатах – як заведзена. Бо дзе яшчэ можна сілу маладзецкую на волю выпусціць? Ні "Оскараў", ні "Імпульсаў" на вёсцы няма. Вось моладзь і ладзіць свае "кабакі". Ды Каляды тут – толькі як нагода выпіць. А вось старога звычаю калядоўнікаў з зоркаю, з "казою", з урыўкамі калядных песень і іншай каляднай атрыбутыкай хадзіць па хатах прытрымліваюцца самыя маладыя.

А святы, між іншым, хутка канчаюцца, і на пахмелле застаецца толькі расол..

**Мікола КАНАНОВІЧ**

# ДОЛЯ ГОРКАЯ, ІНВАЛІДСКАЯ...

*(Пачатак на стр. 1)*

Ніяк я не магла змірыцца, што чалавек без нагі мае толькі трэцюю групу інваліднасці. Скардзілася, прасіла дапамогі. Нарэшце мужа паклікалі на пасяджэнне абласной выязной урачэбнай камісіі. Адзін карыфей ад медыцыны, слова якога там нешта значыла, паглядзеў кульцю і сказаў:

– Во, дык у яго яшчэ трэцяя частка нагі ёсць. Хопіць і трэцяй групы.

Зноў пацяклі гады. І калі да калецтва падключылася гіпертанічная хвароба, далі яму другую групу. І то ўсяго на адзін год, відаць, мяркуючы, што за гэты час нага адрасце. Але, на дзіва, яна не адрасла, і праз год ужо далі другую групу на ўсё астатняе жыццё. А неўзабаве пачалі даплачваць за траўму і на вытворчасці.

Выказванне, што ўсе пад Богам ходзім, на мой погляд, не зусім справядлівае. Некаторыя ходзяць пад чортам і нядрэнна сябе адчуваюць. Ні спагады ў іх да калекі, ні міласэрнасці. Адна пустая балбатня. І зразумець няшчаснага чалавека па-сапраўднаму зможа толькі той, хто сам такі.

Кожны раз віншаванне з днём інваліда мой муж успрымае як абразу. Думаю, што не толькі ён.

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ**

## ВЕСТКІ З МАСТОЎ

### Ідзе падрыхтоўка да выбараў

**У Мастах утворана раённая выбарчая камісія па выбарах дэпутатаў у мясцовыя Саветы.**

Днямі адбылося арганізацыйнае пасяджэнне. Прайшло яно выключна пад дыктоўку райвыканкама. Сходу былі прапанаваны кандыдатуры старшыні камісіі і сакратара. Спробы сябра камісіі Льва Бартоша ўнесці змены і надаць пасяджэнню хоць нейкі дэмакратычны накірунак поспеху не мелі. Як і запланавала "вертыкаль", старшынёй выбарчай камісіі быў абраны Аляксандр Гвоздзь – намеснік старшыні райвыканкама.

**Язэп ПАЛУБЯТКА**

### Куры "паляцелі" на Зялёную вуліцу

**Працяглы час у адным будынку з прахадной мэблевай фабрыкі працавала крама, куды напрамую пастаўлялася прадукцыя скідзельскай бройлернай фабрыкі.**

Гэта была адзіная спецыялізаваная крама ў горадзе па продажу птушкі. Была яна прывабная мастаўчанам тым, што знаходзілася ў цэнтры горада.

За дзень да Новага года яна нечакана зачынілася, а рэшткі яе тавару былі перавезены ў краму, што знаходзіцца на Зялёнай вуліцы. Як высветлілася, пераезд адбыўся па той прычыне, што АТ "Мастадрэў" не знайшло паразумення з гандлярамі ў памерах арэнднай платы.

**Антон МАКЕЙ**

### Уведзена новая АТС

**У Мастах на раённым вузле электрасувязі пачала працаваць новая АТС на дзве тысячы нумароў.**

Гэта на некаторы час здыме праблему тэлефанізацыі, якая вельмі востра стаіць у горадзе. Першыя нумары новай станцыі былі падключаны напярэдадні Новага года.

**Антон МАКЕЙ**

### Свята — час труціць прусакоў

**У Мастоўскай бальніцы напярэдадні Калядаў лячэбны корпус, дзе размешчана некалькі аддзяленняў, вызвалілі ад хворых: каго выпісалі з лякарні, каго адпусцілі на святы дамоў.**

Невядома чаму, але менавіта ў святочныя дні медыкі вырашылі патруціць прусакоў у палатах і ардынатарскіх пакоях.

**Іван МІЛАСНІЦКІ**

## ВЕСТКІ З ДЗЯТЛАВА

### Будзем з макаронамі

**Дзятлаўскае аб'яднанне прадпрыестваў грамадскага харчавання ў г.п.Казлоўшчына ўстанавіла лінію па вырабу макаронаў.**

Падобна на тое, што якасць макаронных вырабаў выдатная. Жыхары райцэнтра і іншых населеных пунктаў набываюць іх з вялікай ахвотай.

### Новыя аўтобусы

**Дзятлаўскі аўтапарк № 16 набыў два новыя аўтобусы вытворчасці лідскага завода "Нёман".**

За аўтобусамі замацавалі лепшых вадзіцеляў: Леаніда Губко, Віктара Шавеля, Генадзя Жамойцка і Івана Мінакоўскага.

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ**

## ВЕСТКІ З ЗЭЛЬВЫ

### Юбілейны нумар "Працы"

Выйшаў у свет сямітысячны нумар зэльвенскай раённай газеты "Праца", якая выходзіць з красавіка 1940 года.

### Гараць стажкі

**Некалькі месяцаў не могуць спакойна спаць гаспадары пабудоў, якія маюць асабістую падсобную гаспадарку ў пасёлку Акцябрскі. У начны час яны вартуюць стажкі сена і саломы, што назапасілі для ўласнай жывёлы.**

Пачынаючы з лістапада мінулага года, стажкі нехта паліць. Такіх дзіўных пажараў адбылося ў пасёлку Акцябрскі ўжо шэсць.

**Пётр ЖЭБРАК**

## ПОШТА

### 40 гадоў за рулём

Рэдакцыя "ГС" атрымала ліст ад жыхароў вёсак калгаса "Чырвоная зорка". У пісьме людзі шчыра дзякуюць вадзіцелю камбіната бытавога абслугоўвання Аркадзю Лагуціку, які на працягу многіх гадоў дастаўляе ім адзенне, абутак, дапамагае адрамантаваць бытавую тэхніку.

– Мы заўсёды чакаем яго і вельмі рады кожнаму яго прыезду, – пішуць жыхары вёскі Высацк. – У цяперашні час, калі аўтобус вельмі рэдка ходзіць да райцэнтра, Аркадзь Іванавіч адзіны, хто дапамагае нам даставіць у рамонт адзенне, абутак, бялізну ў пральню. Усе мы людзі з самымі рознымі характарамі і норавамі. Аднак гэты чалавек заўсёды знойдзе падыход да кожнага і падкажа, як лепш вырашыць нашы праблемы.

### Шаноўныя землякі!

Віншую з Калядамі, Новым годам, юбілеем вашага вельмі годнага і слыннага выдання.

Год 1998-ы для мяне быў нялёгкім, але і шчаслівыя моманты мяне не мінулі. Я знайшла паразуменне з сынамі і маральную падтрымку землякоў з "Газеты Слонімскай", іншых людзей ды арганізацый. Пазнаёмілася з творчасцю сусветна прызнанага мастака – Міколы Бушчыка. Ён, між іншым, наш зямляк, ураджэнец вёскі Дзераўная. Ну, а галоўнае – творчасць. Складаліся вершы, пісалася проза. Напрыклад, калядную аповесць (шчыры расповяд пра самыя нялёгкія час асабістага лёсу) прапанавала рэдакцыі перыёдыка "Za Volu". Аповесць мае назоў "Хлеб і да хлеба". Разам з тым, спадзяюся, вызначыць месца нешта "да хлеба", аваладаць спецыяльнасцю мадэльера галаўных убораў. Бо адзін з найпершых успамінаў майго маленства такі: у скверыку ля помніка Сталіну сядзіць француза ў капялюшыку. Капялюшык быў гэткі пекны, што я стаяла слуп слупам насупраць яе, утаропіўшыся ў гэтае незямное хараство. А дзядуля Васіль цягнуў мяне за руку, здзіўляючыся, чаго гэта я замерла на месцы? З тых далёкіх часоў і на працягу ўсяго жыцця я захапляюся капялюшамі. А цяпер вось набыла магчымасць іх сама стварaць. І мару адшукаць фасоны і вырабіць галаўныя ўборы ўздзельнікаў антыбальшавіцкага вызвольнага руху Беларусі. Калі хто дапаможа мне ў гэтым пошуку – буду вельмі ўдзячная!

Ад 1999 года чакаю змен да лепшага ў лёсе Бацькаўшчыны, тых людзей, якіх люблю, і якія любяць мяне таксама. Хай усім нам будзе ласка ад нашага добрага Бога!

"Газеце Слонімскай" і калектыву рэдакцыі жадаю матэрыяльнага і духоўнага росквіту, здзяйснення ўсіх задум, мар, спадзяванняў. Жадаю жыццёвай трываласці, даўгалецця, спагады блізкіх і грамадскага прызнання. А ўсім землякам са Слонімшчыны – шчасця і дабрабыту!

**З павагай Ганна ШАРАМЕЦЦЕВА, паэтка, журналістка, Мінскі раён.**

## НОВОСТИ ОТ БЕЛАПАН

### Ветераны просят льготы

**Представители общественных организаций ветеранов труда обратились к президенту страны Александру Лукашенко с открытым письмом.**

В нем содержится просьба вернуть ветеранам труда основные льготы в течение 1999 года, который официально объявлен ООН Международным годом пожилых людей.

Речь идет, в частности, о бесплатном проезде в общественном транспорте, возможности бесплатно приобретать лекарства, а также оплачивать жилье по льготным тарифам. Эти льготы, предусмотренные статьями Закона Республики Беларусь «О ветеранах», были отменены указом президента от 1 сентября 1995 года.

В первый раз с подобной просьбой ветераны труда обращались в администрацию президента во второй половине 1998 года, однако, ответа на нее не получили.

### Бедная категория

**Самой бедной категорией граждан в Беларуси являются дети — особенно те, которые воспитываются в больших семьях.**

По данным Министерства статистики и анализа республики, среди одиноких людей малообеспеченные граждане составляют 9,3% , среди членов бездетных семей – 17,9%, в полных семьях с одним ребенком – 22%, с двумя детьми – 37,9%, с тремя и более – 61%. Еще хуже обстоят дела в больших неполных семьях: 82,7% неполных семей с тремя и более детьми обеспечены ниже прожиточного минимума.

### Беларусь на 11 месте

**Беларусь занимает 11-е место среди стран бывшего СССР по уровню среднемесячной заработной платы.**

По состоянию на конец декабря 1998 года, средняя зарплата в Беларуси была эквивалентна 23 долларам США. Меньше получали только в Армении – 22 доллара, Грузии – 20, Узбекистане – 16,5 и Таджикистане – 10. Лидером по этому показателю оказалась Эстония – 310 долларов. Средняя зарплата в Литве составляла 260 долларов, в России – 88,6, на Украине – 48,8.

В то же время, в Беларуси самый низкий среди стран бывшего Союза прожиточный минимум – 11 долларов (для сравнения: на Украине – 21,1 доллара, в России – 35,8). В конце декабря Беларусь делила последнее место с Азербайджаном по уровню минимальной зарплаты, которая в обеих странах составляла 1,4 доллара (для сравнения: в Таджикистане – 2 доллара, России – 3,9, на Украине – 15,7, в Эстонии – 81, Литве – 107,5 доллара).

Газета Слонімская
Рэг. нумар 947 ад 24.03.1997г.
Юрыдычны адрас: г.Слонім, Брэсцкая,109/12
Заснавальнік і рэдактар Віктар ВАЛАДАШЧУК

Адрас для пісем: 231800, г.Слонім, вул. Я.Купалы, 5. Тэл. 2-14-39. (017)210-87-17 E-MAIL:gs@irex.minsk.by

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў, іх меркаванні могуць не супадаць з поглядам рэдакцыі.

Рэдакцыя не вядзе перапіску з чытачамі і пакідае за сабою права рукапісы не рэцэнзаваць і не вяртаць.
Газета друкуецца на беларускай і рускай мовах.

Падпісана да друку 13 студзеня 1998г. Час падпісання 8:00.
Надрукавана ў Баранавіцкай узбуйненай друкарні, г. Баранавічы, вул. Савецкая, 80.

Падпісны індэкс 64042.
Наклад 7.200 экз. Заказ №48
© «Газета Слонімская». Спасылка на «ГС» абавязковая
Ⓡ Матэрыялы публікуюцца на правах рэкламы

© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016



УВАГА! КОНКУРС

# "ШТО Б ГЭТА ЗНАЧЫЛА?"

**Паважаныя чытачы!**

Наша газета праводзіць для вас новы гумарыстычны конкурс "Што б гэта значыла?". Да фотаздымкаў, якія будуць друкавацца, трэба прыдумаць смешныя подпісы. Яны могуць быць напісаны прозаю альбо вершам на беларускай ці рускай мовах. Галоўнае, каб, прачытаўшы іх, можна было б усміхнуцца.

Прапануем вашай увазе чарговы здымак конкурсу, які зрабіў наш чытач Сяргей Пацэнка. На працягу дзесяці дзён чакаем ад вас да здымка смешныя подпісы па адрасе: 231800 г.Слонім, вул.Янкі Купалы,5."ГС". Не забывайце ўказваць сваё імя і прозвішча, дамашні адрас і тэлефон. Выніки конкурсу рэдакцыя падвядзе першага красавіка, калі будзе адзначацца дзень смеху. Пераможцы атрымаюць каштоўныя прызы.

Рэдакцыя чакае ад вас, шаноўныя чытачы, і смешныя фотаздымкі да гэтага конкурсу. Лепшыя будуць надрукаваны, а аўтары іх таксама атрымаюць прызы. І так... паехалі!

**Журы конкурсу**

**P.S.** Чытацкія подпісы да першага здымка ("ГС" №2, 1999г.), дасланыя на конкурс "Што б гэта значыла?", будуць надрукаваны ў наступным нумары.



группа CFS Компьютеры и оргтехника
Тел. 2-60-50
Факс 2-66-50
Лицензия мин.промышленности № 587 от 12.12.97г

СЕНСАЦИИ БУДУЩЕГО

## Будем живы — не помрем

**Достижения науки и техники, которые ожидают человечество в ближайшие 50 лет, были названы в книге американских ученых Брэда Уиннерса и Дэвида Пакета.**

*Итак:*

1999 г. — будет создана противозачаточная таблетка для мужчин;

2000 г.— начнётся прорыв генной терапии в борьбе с раком;

2001 г. — будет организована глобальная сеть мобильных телефонов;

2002 г.— учёные найдут прививку против СПИДа;

2003 г.— будет разработана сеть видеотелефонов, которая охватит весь мир;

2005 г.— появятся роботы, выполняющие домашнюю работу;

2006 г.— учёные откроют эффективное средство против облысения;

2010 г.— начнет работать робот-хирург величиной с таблетку — больной проглатывает его, и с помощью пульта управления осуществляется хирургическое вмешательство;

2020 г.— человек совершит посадку на Марсе;

2025 г.— поступят в продажу наручные часы, которые не только будут показывать точное время, но и отмечать состояние здоровья их владельца;

2029 г.— люди научаться излечивать поражённые человеческие клетки;

2043 г.— впервые будет оживлен умерший;

2044 г.— будет создан первый способный к размножению робот.

АНЕКДОТЫ

☺ - Дорогой, что ты скажешь, если мы сыграем свадьбу на Рождество?- Ах, оставь, пожалуйста, стоит ли портить себе праздник?

☺ - Дорогой, скоро Рождество! Не пойти ли нам посмотреть что-нибудь из мехов?

- Отличная идея! Только нужно поторопиться, а то зоопарк скоро закрывается.

☺ Автоинспектор останавливает «Мерседес», превысивший скорость:

- Куда вы так спешите? - спрашивает он у нового русского.

- Спешу домой, командир. Мы встречали Новый год с друзьями, я немного задержался. Жена, наверное, волнуется.

- Но ведь сейчас май на дворе.

- Потому и спешу!

☺ - Вы знаете, мистер Джонсон, - сказал батрак хозяину фермы,— когда я работаю у вас, я постоянно чувствую угрызения совести...

- Почему?

- Мне кажется, что я лишаю работы минимум трех лошадей.

☺ Мать (тихим голосом):

- Томми, твой дедушка очень болен. Не можешь ли ты сказать что-нибудь, чтобы подбодрить дедушку?

Томми:

- Дедушка,ты не хотелбы, чтобы солдаты были на твоих похоронах?

☺ - Когда наши соседи узнали, что мы купили новую мебель, они чуть с ума не сошли от зависти...

- И в чем же это выразилось?

- Они подарили нашему сыну книжку «Юный столяр» и набор инструментов.

Радиотакси
ВОЯЖ
круглосуточно
5-19-52
5-15-50

**За мінулы тыдзень у Слонімскім аддзеле ЗАГСа зарэгістраваны дзеткі, якія нядаўна нарадзіліся:**

**Баеушэвіч Ганна, Кандрацюк Арцём**




**У Слонімскім аддзеле ЗАГСа зарэгістравалі шлюб:**



**Радкевіч Алег і Іванова Алена**

**Ціхановіч Віталь і Куляшова Алена**

## СВЕТЛАЙ ПАМЯЦІ

✝

| | |
|---|---|
| **Крыўда** Васіль Ільіч | 1920 г.н. |
| **Круглік** Аляксандр Рыгоравіч | 1920 г.н. |
| **Жукава** Сцепаніда Сяргееўна | 1904 г.н. |
| **Гардзюніна** Зінаіда Сцяпанаўна | 1914 г.н. |
| **Арцюх** Віктар Уладзіміравіч | 1964 г.н. |
| **Дабрыян** Іван Уладзіміравіч | 1928 г.н. |
| **Троцкі** Іван Іосіфавіч | 1930 г.н. |
| **Жук** Любоў Сяргееўна | 1923 г.н. |
| **Мароз** Іван Мікалаевіч | 1936 г.н. |
| **Качан** Іван Пятровіч | 1935 г.н. |
| **Працэнка** Кацярына Мікалаеўна | 1919 г.н. |
| **Герасімчык** Тафілія Рыгораўна | 1900 г.н. |
| **Рудак** Іван Іосіфавіч | 1940 г.н. |
| **Тарасаў** Вячаслаў Міхайлавіч | 1950 г.н. |

✝

Паважаныя Ірына Аляксееўна Швайдзюк, Клаўдзія Аляксееўна Семянькова, а таксама вашыя родныя і блізкія!

Глыбока смуткуем разам з вамі і падзяляем горыч страты, выказваем самыя шчырыя і сардэчныя спачуванні з выпадку трагічнай смерці вашага брата, шваграі дзядзькі **Вячаслава**.

*Сям'я Мароз і Сталярчук*

ЖАЛЮЗИ
(СОБСТВЕННОГО ПРОИЗВОДСТВА)
окна, двери из ПВХ, подоконники и отливы наружные фирмы "Helotop".
Гаражные и индустриальные ворота, защитные роллеты.
Выезд специалиста бесплатно.
Тел. 4-11-72, 3-18-29.

ВЕСЕЛЫЙ КРОССВОРД

*от Владимира Вашуты*

**ПО ГОРИЗОНТАЛИ:**

**5**. Парижский летательный объект. **6**. Километр по старинке. **10**. Судовое стойло. **11**. Старый родственник проспекта. **12**. Годовое расписание. **15**. Часть речи, которая всегда может за себя ответить. **18**. Пистолетная чуланка. **19**. Девичья память у старушек. **20**. Часть очередного оружия. **21**. Спец по бочкам. **24**. Речной дымовой. **26**. Кухонный свистун. **27**. Прикид каратиста. **31**. Звание в три звезды. **33**. Место шпиона с пирожками. **34**. Трехгодичный тельняшник. **35**. Лошадиный ухажор за бугром. **36**. Любимая посуда Винни-Пуха.

**ПО ВЕРТИКАЛИ:**

**1**. Классная мебель. **2**. Юмористический шабаш по-Хмелику. **3**. Показатель, который вырастает каждый раз, когда его бьют (спорт). **4**. Овечья тусовка. **7**. Вневедомственный охранник на огороде. **8**. Молчаливый помощник портного. **9**. Нотная упряжка. **13**. Полста целиком. **14**. Ас по монтажу. **16**. Восточный ветеран. **17**. Сказочный марафонец. **22**. Часть лица у бабы, которая иногда бывает съедена. **23**. Запасной выход для любовника. **25**. Максипуля. **28**. Оружейная чистилка. **29**. Великан-одноглазка. **30**. Предмет, не вырубающий написанное. **32**. Пальмовый молочник.




**ОТВЕТЫ НА КРОССВОРД (№2)**

**По горизонтали:** **5**. Ротор. **7**. Кража. **9**. Автобус. **10**. Кокаин. **11**. Улитка. **12**. Рио. **13**. "Виват". **17**. Ванна. **19**. Анекдот. **22**. Цензура. **23**. Колобок. **25**. Экватор. **26**. Брасс. **29**. Багаж. **33**. "Бис". **35**. Окурок. **36**. Оратор. **37**. Абордаж. **38**. Ангар. **39**. Дробь.

**По вертикали:** **1**. Страда. **2**. Брань. **3**. Уксус. **4**. Ланита. **5**. Риони. **6**. Копилка. **8**. Аркан. **14**. Варежка. **15**. Антракт. **16**. Хоровод. **18**. Недосуг. **20**. Аза. **21**. Воз. **24**. Палитра. **27**. Рикша. **28**. Серьга. **30**. Анатом. **31**. Авось. **32**. Скарб. **34**. Дождь.

## Праваслаўныя святы ў 1999 годзе

**Пасхалія (паводле новага стылю)**

15 лютага — пачатак Масленіцы.

22 лютага — пачатак Вялікага посту.

4 красавіка — Вербная нядзеля. Уваход Госпада ў Іерусалім.

11 красавіка — ПАСХА.

20 мая — Узнясенне Господняе.

30 мая — Пяцідзесятніца (Тройца).

7 чэрвеня — пачатак Пятрова посту.

**Двунадзесятыя неперахоДзячыя святы**

19 студзеня — Хрышчэнне Гасподняе.

15 лютага — стрэчанне Гасподняе.

7 красавіка — Благавешчанне Прасвятой Багародзіцы.

19 жніўня — Праабражэнне Гасподняе.

28 жніўня — Успенне Прасвятой Багародзіцы.

21 верасня — нараджэнне Прасвятой Багародзіцы.

27 верасня — Уздвіжанне Крыжа Гасподняга.

4 снежня — Увядзенне ў храм Прасвятой Багародзіцы.

**Вялікія святы**

14 студзеня — Абразанне Гасподняе і памяць свяц. Васілія Вялікага.

7 ліпеня — нараджэнне Іаана Прадцечы.

12 ліпеня — святых першавярхоўных апосталаў Пятра і Паўла.

11 верасня — Успекнавенне галавы Іаана Прадцечы.

14 кастрычніка — Пакроў Прасвятой Багародзіцы.

**Мнагадзённыя пасты**

Вялікі пост — з 22 лютага да 10 красавіка.

Пятроў пост — з 7 чэрвеня да 11 ліпеня.

Успенскі пост — з 14 жніўня да 27 жніўня.

Пост перад Раством Хрыстовым — з 28 лістапада да 6 студзеня 2000 года.

**Аднадзённыя пасты**

Серада і пятніца на працягу ўсяго года, за выключэннем усеядных тыдняў калядняга перыяду.

Навячэр'е Богаяўлення — 18 студзеня (Крещенский сочельник)

Усячэнне галавы Іаана Прадцечы — 11 верасня.

Уздвіжанне Крыжа Гасподняга — 27 верасня.

Усеядныя тыдні (па серадах і пятніцах посту няма)

Калядны перыяд з 7 па 17 студзеня.

Мытара і фарысея з 31 студзеня па 6 лютага.

Сырны (масленічны) з 15 лютага па 21 лютага.

Пасхальны (светлы) з 11 красавіка па 17 красавіка.

Троіцкі з 30 мая да 5 чэрвеня.

**Дні асаблівага памінання спачылых**

Субота мясапусная — 13 лютага.

Субота 2-га тыдня Вялікага посту — 6 сакавіка.

Субота 3-га тыдня Вялікага посту — 13 сакавіка.

Субота 4-га тыдня Вялікага посту — 20 сакавіка.

Радаўніца —20 красавіка.

Памінанне спачылых воінаў — 9 мая.

Субота Троіцкая —29 мая.

Субота Дзімітрыеўская — 6 лістапада.

## Каталіцкія святы ў 1999 годзе

2 лютага — Ахвяраванне Пана Езуса (Маці Божай Грамнічнай)

17 лютага — Папялец

19 сакавіка — Урачыст.св. Юзафа

25 сакавіка — Звеставанне НМП

28 сакавіка — Вербная нядзеля

4 красавіка — Вялікдзень

5 красавіка — панядзелак Вялікодны

11 красавіка — Божай Міласэрнасці

13 мая — Унебаўшэсце Пана Езуса

23 мая — Спасланне Духа Святога

24 мая — Найсв. Марыі Панны, Маці Касцёла

30 мая — Найсв. Тройцы

3 чэрвеня — Найсв. Цела і Крыві Хрыста

11 чэрвеня — Найсв. Сэрца пана Езуса

12 чэрвеня — Беззаганнага Сэрца НМП

24 чэрвеня — Нараджэнне св. Яна Хрысціцеля

29 чэрвеня — св. Апосталаў Пятра і Паўла

6 жніўня — Перамяненне пана Езуса

14 жніўня — св. Максіміліяна Кольбэ

15 жніўня — Унебаўзяцце НМП

8 верасня — нараджэнне НМП

14 верасня — Узвышэнне Св. Крыжа

29 верасня — Святых Арханёлаў

7 кастрычніка — НМП Ружанцовай

1 лістапада — Усіх Святых

2 лістапада — Дзень Задушны

21 лістапада — Хрыста Валадара Сусвету

8 снежня — Беззаганнае Пачацце НМП

24 снежня — Вігілія Божага Нараджэння

25 снежня — Божае Нараджэнне

© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

